Грамадскае незалежнае выданне, выходзіць са студзеня 1997 года

# Газета для вас

20—26 сакавіка 1999 года
№ 12 (170)
Наш індэкс 63834

Цана па падпісцы — 3000 руб.
Цана ў розніцу — 5000 руб.

ІВАЦЭВІЧЫ–БАРАНАВІЧЫ-БЯРОЗА-ПРУЖАНЫ

## ЦІ ВЕДАЕЦЕ ВЫ, ЗА КАГО ГАЛАСАВАЦЬ?

*Час бяжыць няўмольна, і ўжо не за гарамі 4 красавіка, калі ўсім нам трэба будзе прыйсці на выбарчыя ўчасткі. Такое наша канстытуцыйнае права. А, дарэчы, ці ведаюць жыхары Івацэвіцкага раёна хаця б імёны тых кандыдатаў, за якія ім прыйдзецца прагаласаваць праз пару тыдняў? Вось тыя адказы на гэтае пытанне, якія мы пачулі:*



**Васіль Герасімавіч:** Не толькі не ведаю тых, за каго трэба будзе галасаваць, але не ведаю і тых, хто ў нас зараз дэпутатамі. Жыццё сабе імчыцца наперад, і ўсё больш умацоўваешся ў думцы, што даваярць трэба толькі сабе і разлічваць на свае сілы. Гэтак і пяць гадоў назад выбіралі, спрачаліся — а дзе толк?



**Міхаіл Андрэевіч:** Да нас у гараж прыходзіў старшыня сельсавета і расказваў пра тых кандыдатаў, якія хочуць стаць дэпутатамі. Але, як я заўважу, ёсць участкі, дзе на адно месца прэтэндуе адзін чалавек. Які ж тут выбар, скажыце? Ці будзе які плён з гэтых выбараў? Не ведаю.



**Марыя Андрэеўна:** Ой, яны там кожны дзень штосьці расказваюць па радыё, па тэлевізары. Я ж нікога не слухаю. Бо нікому не веру. Гэта ў іх такая работа — байкі нам баяць. Гаваруноў, скажу вам, развялося шмат, языком працуюць больш, чым рукамі. Не думала раней, што чалавека можа пракарміць язык, а не рукі. Усе яны гавораць правільна, толку вось толькі няма.

*АД АЎТАРА. Як паказвае наша бліц-апытанне, людзі пенсійнага ўзросту ўжо "наеліся" за сваё жыццё абяцанак-цацанак і іншых баек, таму да выбараў адносяцца з поўнай абыякавасцю і раўнадушшам.*

*Якія яшчэ горы залатыя трэба паабяцаць працаўным людзям, каб яны пайшлі галасаваць з самым гарачым жаданнем? А мо ў дзень выбараў піва бясплатна даваць?*

*А. ГОРБАЧ, А. ГАНЧУК (фота).*

## НАМ АДВЕДЗЕНА РОЛЯ ШЫРМЫ...

Хутка адбудуцца выбары ў абласныя, раённыя і мясцовыя Саветы.

Але я бачу, што гэта чарговая шырма для служкаў сацыялістычнага кшталту. Бо вылучэнне кандыдатаў прайшло ціха, без усялякіх абмеркаванняў, чыста пабеларуску, улічваючы славутую талерантнасць нашых выбаршчыкаў, якім усё "да лямпачкі". Кіраўнікі калектываў для галачкі выканалі гэтае даручэнне выдатна.

Вылучалі ад калектываў, але сходаў амаль нідзе не было. Так, у гарбальніцы Белаазёрска насілі па кабінетах лісты, каб падпісаліся супрацоўнікі. Яны падпісаліся за кандыдата ў дэпутаты па просьбе і прапанове намесніцы галоўнага ўрача. У сярэдняй школе № 3 гэтага ж горада сход прымеркавалі да педсавета. Хто чуў, хто не чуў не вельмі гучную аб'яву, хто падняў руку, хто не падняў, але ўсё было зацверджана аднагалосна ў пажарным парадку.

Гэтыя два кандыдаты на сваёй працы яшчэ сябе нічым не праявілі, а іх ужо ўпіхваюць у дзяржаўныя справы, таму што добра ведаюць, што ад іх нічога ўсё роўна не будзе залежаць і яны нічога не будуць рабіць, але шырмай будуць бездакорнай.

Цікава, што амаль ва ўсіх акругах Бярозаўшчыны толькі па аднаму кандыдату,так што нашаму законапаслухмянаму, але не вельмі актыўнаму электарату не трэба напружваць мазгі, а камісіям, па майму меркаванню, лёгка будзе дакідваць лісты за тых выбаршчыкаў, якія не пойдуць на выбары.

Яшчэ цікавей, што многія кандыдаты ў дэпутаты абласнога і раённага Саветаў балаціруюцца далёка ад свайго месца жыхарства. Няўжо намесніка старшыні Брэсцкага аблвыканкама М. П. Еўтуха людзі Брэста менш ведаюць, чым жыхары Малеча? Небезвядомая С. І. Кошаль, для якой дэпутацтва, як імунітэт, чамусьці таксама апынулася ў Малечы, а паважаны "боец невидимого фронта" Е. Т. Малібаеў, які шчыра клапоціцца аб ачышчэнні Беларусі ад беларусаў, — у Сакалове.

Глядзіш на спісы і сум бярэ. Нікога з іх даўно не цікавяць інтарэсы простага народа, і ніколі яны не дапамогуць рабочаму чалавеку, калі трэба будзе ўзняць голас супраць вышэйстаячага начальства, бо гэта тая кагорта людзей, для якіх асабісты побыт даражэй за ўсё на свеце. Жывуць яны з цвёрдай упэўненасцю, праверанай наменклатурным жыццём, што той "прав, у кого больше прав".

Падумайце, дарагія землякі, ці трэба вам і далей быць шырмай для іх, ці трэба аддаваць свае галасы даверу тым, каго не ведаеце, хто ўсё роўна вам нічым не дапаможа.

*А. ПРЫГОДЗІЧ.*
*г. Бяроза.*

## ПРЭЗІДЭНЦКІЯ ВЫБАРЫ: ПРАКУРОРСКІЯ ПАПЯРЭДЖАННІ

**БЯРОЗА.** У чацвер, 11 сакавіка, пісьмовае папярэджанне ад пракурора Бярозаўскага раёна сп. Курыловіча атрымаў сябра ініцыятыўнай групы па збору подпісаў па вылучэнні кандыдатам у прэзідэнты Рэспублікі Беларусь Міхаіла Чыгіра, сябра Сялянскай партыі, фермер сп. Канстанцін Вярцейка. Зборшчык подпісаў быў затрыманы супрацоўнікамі КДБ, калі на аўтамашыне вяртаўся ў вёску пасля таго, як ў Бярозаўскім аддзяленні Аграпрамбанку прапанаваў супрацоўнікам паставіць свае подпісы за Міхаіла Чыгіра і пакінуў агітацыйныя матэрыялы. У папярэджанні гаворыцца, што калі Вярцейка будзе і надалей прапагандаваць прэзідэнцкія выбары, прызначаныя Вярхоўным Саветам на 16 мая, то можа быць прыцягнуты да крымінальнай адказнасці.

Аналагічнае папярэджанне атрымаў у панядзелак, 15 сакавіка (Дзень Канстытуцыі) старшыня Белаазёрскага Народнага Фронту "Адраджэнне" сп. Мікалай Суліма, які ў лютым збіраў подпісы грамадзян па вылучэнні свайго прадстаўніка ў раённую выбарчую камісію па выбарах прэзідэнта. Спадара Суліму абвінавачваюць у парушэнні 81 артыкула прэзідэнцкай Канстытуцыі, згодна з якой выбары прэзідэнта прызначае Нацыянальны сход.

**Падборку "Навіны: час мясцовы" падрыхтавалі:** С. Кажадуб, А. Горбач (Івацэвічы), С. Русецкі (Бяроза), прэс-цэнтр МА "Грамадзянскі форум" (Пружаны), А. Лауранюк, М. Кулікова (Баранавічы).

**Шаноўныя чытачы!**

25 сакавіка заканчваецца падпіска на "Газету для вас" на другі квартал 1999 года. Аформіць яе яшчэ можна ва ўсіх аддзяленнях сувязі Баранавіцкага, Івацэвіцкага, Бярозаўскага і Пружанскага раёнаў. Індэкс газеты 63834.

Кошт падпіскі: на адзін месяц — 32 тысячы рублёў, на квартал — 96 тысяч.

## НАВІНЫ: ЧАС МЯСЦОВЫ

### Бюджэт поўны, а кішэня пустая

**ІВАЦЭВІЧЫ.** Бюджэт раёна за мінулы год па даходах і расходах выкананы. Так паведамляе фінансавы аддзел райвыканкама. Значыць, і ў нашых бюджэтнікаў (работнікаў адукацыі, медыцыны, культуры і, вядома, пенсіянераў) уласная кішэня не павінна быць пустой. А на справе? На справе зусім іншае. Грошы, праўда, выплачваюць, але ж тых грошай кот наплакаў. Бібліятэкар за два-тры мільёны ніяк не можа звесці канцы з канцамі. На хлеб, малако і кефір толькі і хапае тых грошай, не гаворачы ўжо аб тым, што дачцэ ці сыну трэба купіць яшчэ і адзенне, і школьныя прылады...

І большасць пенсіянераў аказаліся ў такім жа становішчы, як і культработнікі. Нягледзячы на тыя рапарты аб стабілізацыі, выкананні і перавыкананні, не толькі бюджэтнікі, а і астатні шэраговы люд жыве за мяжой жабрацтва.

### Залатыя кулі

**БЯРОЗА.** Чэмпіянат Еўропы, які праходзіў у Галандыі, выявіў мацнейшых стралкоў кантыненту. Стральбу з пісталета на 10 метраў найлепш выканала Кацярына Галабурда — спартсменка з Белаазёрска, член юніёрскай зборнай каманды Беларусі. Дзяўчына заваявала залаты медаль чэмпіянату.

### Спасылаюцца на Закон

**БАРАНАВІЧЫ.** Атрымалі афіцыйнае папярэджанне, падпісанае мясцовым пракурорам, члены выбарчай камісіі па выбарах прэзідэнта Рэспублікі Беларусь Северцаў, Барысевіч і Зверава. Аднак апошнія лічаць, што яны дзейнічаюць у рамках Закона і ніякіх яго парушэнняў выбарчая камісія не дапускала.

### 40 гадоў — не ўзрост

**БАРАНАВІЧЫ.** Міжгарнізонная ваенная пракуратура днямі адзначыла сваё 40-годдзе. Юбілей сустрэты па-дастойнаму: па выніках работы ў мінулым годзе сярод усіх ваенных пракуратур рэспублікі Баранавіцкая заняла першае месца.

Цяпер пад апекай юбіляра 11 раёнаў Брэсцкай, Мінскай і Гродзенскай абласцей, дзе размешчаны вайсковыя часці, установы і арганізацыі Міністэрства абароны, а таксама знаходзяцца ўнутраныя і пагранічныя войскі.

### Абяцанні і чаканні ў модзе

**ПРУЖАНЫ.** Пасёлак Клепачы забудаваны двух- і трохпавярховымі дамамі. Знешне ўсё выглядае даволі прыгожа. А людзі не задаволены. Чаму? Ды таму, што вось ужо пяць гадоў у халодную пару года мёрзнуць у сваіх кватэрах. Хварэюць мужчыны, жанчыны і дзеці. Псуецца мэбля, чарнеюць сцены, адклейваюцца шпалеры.

А што ж начальства? Кіраўніцтва саўгаса "Савецкі" не мае грошай, каб у дастатковай колькасці набыць салярку для кацельні. Выхад з цяжкага становішча прапанавалі ў райвыканкаме: перавесці саўгасную кацельню на газ. Выдатна. Паабяцалі дапамагчы. Вось ужо тры гады абяцаюць, а людзі па-ранейшаму мёрзнуць. Колькі яшчэ чакаць, невядома. Але ўсяляканму абяцанню і чаканню павінен быць канец. Ці будзе?

## У цэнтры ўвагі — свабода слова

15—16 сакавіка ў Мінску праходзіў семінар "Інфармацыйнае грамадства", які праводзіла кансультатыўна-наглядальная група АБСЕ (арганізацыя па бяспецы і супрацоўніцтву ў Еўропе). Па запрашэнню арганізатараў у рабоце семінару бралі ўдзел упаўнаважаны АБСЕ па свабодзе СМІ Ф. Дувэ, намеснік кіраўніка кансультатыўна-наглядальнай групы АБСЕ Х. Кляйнэр, кансультант па інфармаванні грамадскасці пры Дзяржэпартаменце ЗША П. Хікмэн, старшыня Дзяржкамдруку Беларусі М. Падгайны, прадстаўнікі СМІ Беларусі, у тым ліку і рэдактар "Газеты для вас" Л. Цалуйка.

Кіраўнік групы АБСЕ Ханс-Георг Вік, выступаючы на семінары, адзначыў, што ў Беларусі існуе шэраг праблемаў са свабодай інфармацыі і свабодай СМІ. Апазіцыя пазбаўлена доступу да электронных сродкаў масавай інфармацыі. Ён падкрэсліў, што ў Беларусі на карту пастаўлена дэмакратызацыя па еўрапейскіх стандартах, але гэтыя працэс "нельга праводзіць прымусова". Вось чаму АБСЕ заклікае да дыялогу" нават самыя непрымірымыя бакі".

НАВІНЫ РЭСПУБЛІКІ

## Еўрапейцы не хочуць на канферэнцыю

***Парламенты шэрагу еўрапейскіх дзяржаў адмовіліся накіраваць свае афіцыйныя дэлегацыі ў Мінск на міжнародную канферэнцыю "Еўропа без размеркавальных ліній — наш агульны дом".***

Пра гэта паведаміў старшыня аргкамітэта спікер верхняй палаты Павел Шыпук. У прыватнасці, такое рашэнне прынялі парламенты Швецыі, Нарвегіі, Фінляндыі і Вялікабрытаніі, якія не прызнаюць легітымным прэзідэнцкі "парламент" у Беларусі. Затое на канферэнцыі намерваецца выступіць прэзідэнт Лукашэнка. Па словах П. Шыпука, гэтая імпрэза будзе аплачана з бюджэту Парламенцкага сходу саюза Беларусі і Расіі, з беларускага бюджэту пры фінансавай падтрымцы бізнесовых структураў нашай краіны.

## Пратэстанты растуць хутчэй

***Як паведамілі ў Дзяржкамітэце па справах рэлігіяў і нацыянальнасцяў, у мінулым годзе на Беларусі зарэгістравана 105 пратэстанцкіх, 50 праваслаўных і 7 рыма-каталіцкіх суполак.***

Па агульнай колькасці прыходаў застаецца ў лідэрах Руская праваслаўная царква (1.081), яе даганяюць пратэстанцкія (838). Прычым гэтыя афіцыйныя дадзеныя не ўлічваюць значную частку пратэстанцкіх суполак, якія адмаўляюцца ад рэгістрацыі ва ўладных структурах. Рыма-каталіцкая царква, якая лічыцца другой па ўплыве на Беларусі, налічвае 399 парафіяў.

## 47 працэнтаў апытаных сацыёлагамі мінчан хацелі б узяць удзел 16 траўня ў выбарах прэзідэнта Беларусі

***Падчас чарговага апытання грамадскай думкі, якое праведзена ў Мінску сацыялагічнай службай "Зеркало" інфармацыйнай кампаніі БелаПАН, жыхарам беларускай сталіцы 18-ці гадоў і старэй было прапанавана выказацца наконт прызначаных на 16 траўня 1999 года Вярхоўным Саветам 13-га склікання прэзідэнцкіх выбараў.***

Рэспандэнтам, у прыватнасці, прапаноўвалася адказаць на пытанне: **"Асабіста вы будзеце ці не будзеце ўдзельнічаць у выбарах прэзідэнта 16 траўня!"**. Каля паловы з 600 апытаных мінчан (47 працэнтаў) сказалі — "так". 24 працэнты адказалі, што не будуць удзельнічаць 16 траўня ў выбарах прэзідэнта. Кожны пяты (20 працэнтаў) яшчэ не вырашыў як паступіць, а 9 працэнтаў апытаных жыхароў беларускай сталіцы не змаглі сказаць, як яны паступяць у дзень прэзідэнцкіх выбараў, прызначаных Вярхоўным Саветам 13-га склікання.

Адказваючы на пытанне: **"За каго вы аддалі б свой голас, калі б новыя выбары прэзідэнта Беларусі адбыліся сёння!"**, 28 працэнтаў рэспандэнтаў сказалі, што не бачаць дастойных кандыдатаў. Каля трэцяй часткі (31 працэнт) апытаных мінчан не змаглі адказаць на прапанаванае пытанне. Па 7 працэнтаў рэспандэнтаў заявілі, што не пойдуць на выбары або будуць галасаваць супраць усіх кандыдатаў.

З названых мінчанамі магчымых кандыдатаў на пасаду кіраўніка дзяржавы ў лідэрах Аляксандр Лукашэнка (13 працэнтаў). 5 працэнтаў апытаных назвалі Зянона Пазьняка і 3 працэнты — Міхаіла Чыгіра. Генадзя Карпенку назвалі 2 працэнты рэспандэнтаў. Па 1 працэнту адказаўшых аддалі б свой голас за Станіслава Багданкевіча, Сямёна Шарэцкага, Вячаслава Кебіча і Станіслава Шушкевіча.

## Чыстка "вертыкалі"

***Як паведамілі БелаПАН у прэс-службе прэзідэнта Беларусі, Аляксандр Лукашэнка сваім указам ад 11 сакавіка зняў з займаемай пасады старшыню Магілёўскага аблвыканкама Аляксандра Кулічкова.***

Кіраўнік дзяржавы даў таксама згоду на звальненне з займаемых пасад першага намесніка губернатара Магілёўскай вобласці Уладзіміра Адашкевіча і старшыні Мсціслаўскага райвыканкама Магілёўскай вобласці Сяргея Дземідзенкі.

Падставай для гэтага стаў ліст жыхароў горада Мсціслаў аб шматлікіх фактах парушэння заканадаўства мясцовымі ўладамі, які трапіў на стол кіраўніка дзяржавы. Разабрацца з гэтай інфармацыяй было даручана Савету бяспекі Беларусі, група супрацоўнікаў якога правяла праверку ў Мсціслаўскім раёне. У выніку чаго былі выяўлены факты злоўжыванняў у сферы аграпрамысловага комплексу і будаўніцтве жылля.

У выніку праверкі, як паведамілі праваахоўныя органы, затрыманы старшыня Мсціслаўскага райвыканкама і ягоны сын, а таксама старшыня калгаса "Советская Белоруссия", былы кіраўнік райвыканкама і былы начальнік раённага аддзела ўнутраных спраў. Зараз у дачыненні затрыманых праводзяцца аператыўна-следчыя мерапрыемствы.

*(БелаПАН).*

25 САКАВІКА — 81-я ГАДАВІНА СТВАРЭННЯ БНР

# Будучыя пакаленні ўшануюць гэтую дату

***Для ўсіх тых, для каго словы Радзіма, Бацькаўшчына, Беларусь не пусты гук, дата 25 сакавіка — вельмі значная дата. Менавіта ў гэты дзень 81 год таму было абвешчана, што беларусы не толькі як нацыя, але і як прадстаўнікі незалежнай дзяржавы маюць поўнае права на існаванне. І сённяшняя незалежнасць Беларусі — працяг ідэі, тэндэнцыі, выпрацаванай калісьці ўрадам БНР. Пра тагачасныя і сённяшнія ідэі, аб сённяшніх і далейшых шляхах нашай Радзімы з сябрам Івацэвіцкай рады БНФ В. ГАРЧАКОВЫМ гутарыць карэспандэнт "Газеты для вас" А. ГОРБАЧ.***

***— Народны Фронт — тая палітычная плынь, для якой ідэі незалежнасці — самыя дарагія ідэі. Як на сённяшні момант ваша арганізацыя адносіцца да падзей 25 сакавіка 1918 года?***

— Наш рух заўсёды сімпатызуе тым ідэям і падзеям, якія маюць на мэце ўмацаванне нашай дзяржаўнасці. А такая падзея адбылася менавіта 25 сакавіка, калі ўпершыню было абвешчана аб незалежнасці Беларусі. Канешне ж, гэтая дата для нас, беларусаў, вельмі дарагая.

***— Скажыце, Вячаслаў, чаму ж тады гэтая дата не ў пашане ў сённяшніх уладаў?***

— А ў нашых уладаў усё тое, што мае адносіны да незалежнасці, не ў пашане. Што зробіш? Большая частка нашага насельніцтва адчувае настальгію па другой краіне, па другой Радзіме. Для іх Беларусь ледзьве не чужбіна, дакладней, кавалак аднаго вялікага калісьці цэлага. Але ім можна толькі паспачуваць, бо больш маладое пакаленне якраз дбае і думае пра Беларусь, а не пра шостую частку сушы.

***— Значыць, прызнанне 25 сакавіка яшчэ наперадзе?***

— Безумоўна. Калі беларусы будуць жыць у суверэннай, незалежнай дзяржаве, то яны заўжды будуць звяртацца да тых, хто ўпершыню заявіў аб незалежнасці, самастойнасці. Гэты прынцып спрацоўвае ва ўсім свеце. Яны не ўтрымалі дзяржаўнасці Беларусі, але яны былі першымі, хто зрабіў гэты крок. Паўтаруся, наступныя пакаленні абавязкова ўшануюць гэтую



дату. Дарэчы, сённяшні ўрад БНР, які з'яўляецца спадкаемцам тагачаснага ўраду і які да гэтай пары знаходзіцца за мяжой, праводзіць сімвалічную акцыю па прыняццю ў грамадзянства БНР. Таму жадаючыя могуць падаць заяву ў мясцовыя структуры Народнага Фронту. Далучайцеся, уступайце!

***— А бел-чырвона-белы сцяг і герб "Пагоня"? Іх лёс аказаўся таксама не самым удалым..***

— Адносіны народа да гэтага пытання нібы лакмусавая паперка на праверку духоўнага ўзроўню народа. Ад сімволікі многія адмахваюцца, маўляў, яна нікому не дала ні хлеба, ні каўбасы. Таму змяніць яе можна і вельмі хутка. А вось тыя, хто разумее яе велізарны сэнс, стараецца закрыць ад народа яе патрэбнасць пустымі размовамі. Да прыкладу, нашыя сённяшнія ўлады першае, што зрабілі, памянялі сімволіку, сцяг. Адносіны сённяшніх улад да беларускай сімволікі — працяг той палітыкі, аб якой я ўжо гаварыў раней. Усё тое, што мае адносіны да незалежнасці, выклікае ў людзей больш сталага ўзросту нянавісць. Яны ненавідзяць суверэнную Беларусь, усё беларускае; чаму ж яны будуць любіць сапраўдную беларускую сімволіку?

Той аргумент, што бел-чырвона-белы сцяг кепскі ад таго, што быў пад калабарацыяністамі, паліцаямі ў гады вайны, не вытрымлівае ніякай крытыкі. Сапраўдны народ любіць сваё, роднае і за перамогі, і за паражэнні, і за ўдачы, і за памылкі. Напрыклад, сённяшні трохкаляровы расійскі сцяг выкарыстоўваў для сваёй арміі генерал Уласаў, які, служачы вермахту, ваяваў супраць Чырвонай Арміі. І нікому не прыходзіць у галаву, што ў чымсьці тут вінавата сімволіка.

Розніца ў тым, што ў Расіі любяць усё рускае, роднае, а частка беларусаў ненавідзяць усё беларускае, не адчуваюць гаспадарамі сябе на роднай зямлі, а гатовы заглядваць "барину" ў рот...

***— Ды й з уладамі сённяшнімі адносіны ў Народнага Фронту не склаліся...***

— Яны і не маглі скласціся. Растлумачу чаму. Наша Беларусь знаходзіцца на мяжы дзвюх цывілізацый: заходняй і ўсходняй — адсюль адпаведная ментальнасць, культура, рэлігія. Улады бачаць адзіны паратунак — шлях на ўсход. На наш погляд, палітыка Беларусі павінна быць шматвектарнай. Але не ў сэнсе пустой гаварыльні, калі шматвектарнасць, пра якую сцвярджаюць афіцыйныя ўлады, не мае канкрэтнага падмацавання ў выглядзе інвестыцый, фінансавых траншаў. А інвестыцыі для краін з пераходнай эканомікай — умова таго, як дзяржава будзе жыць у будучым. А пакуль што па гэтых інвестыцыях мы знаходзімся амаль на апошнім месцы ў Еўропе.

***— Як Вы пракаменціруеце стварэнне афіцыйных патрыятычных арганізацый?***

— Слоўнік Даля сцвярджае, што нацыяналіст — гэта патрыёт, той, хто любіць сваю Радзіму, народ, культуру. Што тычыцца стварэння падкантрольных дзяржаве структур... Калі мэта А. Лукашэнкі далучыць Беларусь да Расіі, то адпаведныя і высілкі гэтых маладых паслугачоў рэжыму. Патрыятызм БПСМ, я так лічу, грунтуецца на фінансавай падтрымцы рэжыму, яны патрыёты грошай, а не Радзімы. Калі пад уладай "дрогнет трон", то гэтыя паслугачы паразбягаюцца, нібы мышы. Нас жа вельмі суцяшае той факт, што ў шэрагах Беларускага Народнага Фронту вельмі шмат маладых прыхільнікаў. Добра мне запомнілася шматтысячная дэлегацыя ў Мінску ў мінулым годзе. Мы, дэманстранты, ішлі па праспекту Скарыны міма школы і заўважылі, што да вокнаў прыніклі вучні разам з настаўніцай. Яны выразалі сабе па беламу лісціку з чырвонай палоскай пасярэдзіне і віталі нас. Гэтая падтрымка моладзі вельмі нас суцяшае і паказвае, што сапраўднаму патрыятызму не патрэбны мільярдныя крэдыты з кішэні падаткаплацельшчыка.

***— Як Вы, Вячаслаў, пракаменціруеце ўзаемаадносіны Беларусі з Расіяй?***

— Амаль паўгода, звярніце ўвагу, усе інфармацыйныя расійскія перадачы пачынаюцца з пытанняў — дадуць Расіі чарговы фінансавы крэдыт ці не. Расія на сённяшні дзень — волат на гліняных нагах, ці ёсць сэнс кідацца ў абдымкі да дзяржавы, якая больш падобная на парахавую бочку? Пры ўсім тым, расійскі бюджэт роўны па аб'ёму з такімі маленькімі дзяржавамі як Фінляндыя, Галандыя. Па абсалютных аб'ёмах вытворчасці нават такі невялікі амерыканскі штат як Каліфорнія абганяе гэтую нашу ўсходнюю суседку. Мы нічога не выйграем ад саюза з такой краінай. Ці патрэбна нам гэтая багна?

***— Вялікі дзякуй, Вячаслаў, за інтэрв'ю. Жадаю поспехаў Вам і вашай арганізацыі.***

— Дзякуй. Усяго найлепшага і вам.

## Дзякуй, "Газета для вас"!

Купіў у кіёску "Газету для вас" і, знайшоўшы ў нумары купон для бясплатных прыватных аб'яў, рашыў скарыстаць магчымасць і даць аб'яву, што куплю швейную машыну "Zinger".

Шчыра прызнаюся, такога шквалу званкоў я зусім не чакаў. Званілі шмат з Івацэвіцкага раёна, асабліва з целяханскай і быценскай зон, з Бярозаўскага, Баранавіцкага, Пружанскага раёнаў.

Тое, што ваша газета можа даць магчымасць чалавеку змясціць невялікі тэкст аб'явы бясплатна, — проста цудоўна. Хачу параіць усім чытачам скарыстаць такую магчымасць.

*Ігар ВАЛЧОК, жыхар п. Майск Івацэвіцкага раёна.*

СЛУЖБА 01

## Задыхнуліся ў дыме

**ПРУЖАНЫ.** Пажар, які здарыўся ў мінулую нядзелю ў адной з хат вёскі Ласосіна, меў трагічныя паследкі. У дыме задыхнуліся двое пакінутых без нагляду дзетак, 1993 і 1997 гадоў нараджэння. Што з'явілася прычынай: няспраўная печка, што палілася, ці дзіцячае свавольства? Гэта цяпер высвятляе следчая група.

РЫНКАВАЯ ПЛОШЧА

## ШТО ПАЧЫМ?

*Цэны на рынках нашага рэгіёна па стану на 17.03.99 г. (у тысячах руб. за адзін кілаграм):*

| | Івацэвічы | Баранавічы | Бяроза | Пружаны |
|---|---|---|---|---|
| Свініна | 300—370 | 360—400 | 350—400 | 370—400 |
| Сала салёнае | 350 | 350 | 320—350 | 330—360 |
| Алей (1 л) | 315—380 | 280—380 | 280—380 | 310—370 |
| Яйкі | 90—100 | 90—120 | 100 | 80—110 |
| Малако (3 л) | 50 | 60 | 50 | 50 |
| Тварог | 60 | 70 | 60 | 50—70 |
| Масла сметанк. | 280 | 320 | 270 | 300 |
| Цыбуля рэпч. | 135 | 140—160 | 130 | 140—160 |
| Капуста | 40—50 | 70—80 | 40—60 | 30—50 |
| Бульба | 25 | 30 | 25—30 | 20—25 |
| Морква | 40 | 40—50 | 30 | 30—35 |
| Часнок | 300 | 500 | 400 | 270—300 |
| Яблыкі | 100—175 | 170—200 | 130—160 | 120—170 |
| Лімоны | 380 | 400 | 400 | 300—380 |
| Апельсіны | 280 | 300 | 300 | 320—350 |
| Бананы | 320 | 300 | 320 | 310—350 |
| Грэчка | 125 | 140 | 130 | 145 |
| Макар. вырабы | 95 | 90—100 | 110 | 100—130 |
| Рыс | 165 | 170 | 170 | 170 |
| Цукар | 135 | 140 | 140 | 140—160 |
| Мёд | 700—800 | 800 | 750 | 750 |

**ВАЛЮТА НА "ЧОРНЫМ" РЫНКУ**

**(у тысячах рублёў)**

| | купля | продаж | купля | продаж | купля | продаж | купля | продаж |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 долар ЗША | 325 | 345 | 325 | 345 | 320 | 340 | 320 | 340 |
| 1 дойчмарка | 170 | 190 | 170 | 190 | 170 | 190 | 170 | 190 |
| 1 рубель Расіі | 12 ,5 | 13,5 | 12,5 | 13,5 | 12,5 | 13,5 | 12 | 13 |

Маладзёжная Газета для вас № 10

● ГОЛАС НАРОДА

# Ці не "купіць" бы нам брацікa ці сястрычку?

*Дзеці, канешне, кветкі жыцця, але ў любыя часы, а ў сённяшнія асабліва, бацькі даволі разлікова ставяцца да з'яўлення ў сям'і немаўляці. "Стало модным одного малыша иметь всего, да и то подкинуть старикам", — спявалася ў моднай песеньцы з дзесятак гадоў таму.*

*Відавочна, што не ад добрага жыцця маладыя бацькі так асцярожна ставяцца да нараджэння другога ці трэцяга дзіцяці. Хоць усведамляюць, што ўнутраны свет адзінокага дзіцяці шмат бяднейшы, чым тых дзяцей, якія гадуюцца ў шматдзетных сем'ях. А як, дарэчы, самі дзеці ставяцца да з'яўлення ў іх сем'ях брацікa ці сястрычкі? Вось што адказалі нам вучні малодшых класаў на вуліцах г. Белаазёрска.*



**ОЛЯ:** У мяне ёсць дзевяцімесячны брацік, але ён мне ўжо трохі надакучыў. Ён дужа маленькі, з ім цяжка гуляць, бо ён нічога не разумее ў гульнях. Вось каб гэты брацік быў прыкладна майго ўзросту, то было б куды весялей. Ці хачу каб яшчэ з'явіліся дзеці? Канешне, хачу! Але ж ад мяне тут нічога не залежыць. Ці станучь мяне бацькі слухаць!



**ЗАХАР:** Каб яшчэ з'явіўся хлопчык? О, гэта было б цудоўна! У мяне ёсць старэйшая сястра, сямікласніца. Дык яна грэбуе гуляць са мною. Бо ў яе ёсць свае сяброўкі, яны ўжо нейкія запісачкі камусьці пішуць і перадаюць. Хлопцам, напэўна. Вось каб у мяне быў брацік, то было б у сто разоў лепш, цікавей. Можа бацька з маці прыдумаюць яшчэ...



**ЭЛІНА:** Хоць у мяне і ёсць брацік чатырох гадоў, я вельмі хацела б, каб у нас з'явіліся яшчэ хлопчык ці дзяўчынка. Я лічу, што чым больш дзяцей у сям'і, тым лепш. Калі вырасту вялікай, то "куплю" больш дзяцей, чым бацькі. На гэту тэму ў нашай сям'і ніхто гаварыць не хоча.



**АНДРЭЙ:** Я ў сям'і — адзінае дзіця. Я настолькі прывык да гэтага становішча, што не верыцца, што можа быць штосьці інакш. Наваt не ведаю. Ну, напэўна, каб быў у сям'і яшчэ адзін такі хлопец як я, то было б шмат цікавей. Ну, канешне, лепш. Але ж бацькі кажуць, што нават з адным мною ім вельмі цяжка. А мне, думаеце, з імі лёгка?

**АД АЎТАРА.** Як сведчаць адказы нашых юных рэспандэнтаў, дзеці зусім не згодны з тым, кімсьці заведзеным парадкам, што нармальная сям'я — гэта сям'я, у якой не болей двух дзяцей. Атрымліваецца, што падрастаючае пакаленне, ускосна праўда, не менш нас зацікаўлена ў паляпшэнні дэмаграфічнай сітуацыі ў краіне. А яна, як вядома, крытычная: ужо некалькі гадоў запар смяротнасць перавышае нараджальнасць. Застаецца спадзявацца, што гарачае жаданне — быць у вялікай сям'і — не пакіне нашых дзяцей, якія праз нейкія дзесяць гадоў стануць бацькамі і маці.

*А. ГОРБАЧ,*
*А. ГАНЧУК (фота).*

● ЯК МЫ АДПАЧЫВАЕМ

# МАГІЛІЦКІЯ ВЕЧАРЫ

***Не намі заведзены на вёсцы такі парадак: як толькі дзяўчына або хлопец выйдзе замуж або ажэніцца, то шлях іх у месцы адпачынку заказаны. Хіба што па вялікіх святах прыходзіць у СДК сямейная пара, хоць жонцы можа быць толькі 18 гадоў, а мужу — 20. А на тых жа танцах гойсаюць і старыя кавалеры, якім за 30 гадоў, і дзяўчаты — за 25. Але дзенідзе на месцах зразумелі, як можна разварушыць гэтую, здаецца, раўнадушную публіку.***

***У гэтым сэнсе цікавы вопыт Магіліцкага СДК. Амаль штомесячна тут праводзяцца тэматычныя мерапрыемствы, або, як іх яшчэ называюць, агеньчыкі для тых, хто ў шлюбе. Пра асаблівасці такой работы распавядае загадчыца Магіліцкага СДК А. М. БОГАЧ:***

— Нашы мерапрыемствы звычайна прымяркоўваем да якога-небудзь свята. Апошняя шоу-праграма "Усе ад жанчыны на белым свеце" прысвячалася 8 Сакавіка. Ад нас, работнікаў Дома культуры, патрабуецца прывесці залу, сцэну ў належны выгляд. А гэта даволі няпроста. З цягам часу мы ўпэўніліся, што падобныя мерапрыемствы даволі папулярныя, народу прыходзіць шмат, таму неабходнасць давесці да ладу залу, сцэну, прынесці і размеркаваць сталы выклікае шмат клопатаў. Добра яшчэ тое, што зала ў нашым Доме культуры прасторная, таму магчымасці, так бы мовіць, для манеўру ў нас неблагія.

Некалькі слоў аб праграме, сцэнарыі мерапрыемства. Безумоўна, каб разварушыць, развесяліць публіку, трэба кожны раз прапанаваць штосьці новае, арыгінальнае, неардынарнае.

Скажу без прытворнай сціпласці: наш невялічкі калектыў у гэтым сэнсе працуе на ўсю катушку. Ідуць праграмы "Каламбур", "Панядзелак з Хрыстафорам", "Джэнтльмэн-шоу" — мы з аўтаручкамі, лісткамі паперы сядзім, слухаем, фільтруем, адсейваем тое, што можа быць цікавым нашаму наведвальніку, і што можна ўвасобіць на сцэне. І па тым, што зала ў нас заўсёды паўнюткая, настрой у людзей вясёлы, узнёслы, можна лічыць, што мерапрыемствы праходзяць на належным узроўні. Павінна прызнацца, што з сямейнай моладдзю працаваць прыемна і лёгка: яны больш камунікабельныя, лёгкія на ўздым, іх не прыходзіцца доўга ўгаворваць прымаць удзел у конкурсах, як тых, каму па 16—18 гадоў. Самыя маладыя, на жаль, вельмі апатычныя і раўнадушныя.

Уваход у нас платны — 60 тысяч рублёў з чалавека. Па сённяшніх цэнах грошы гэтыя не самыя вялікія, таму, лічу, што мы гэтым не адштурхнем наведвальніка. На апошняе мерапрыемства, пра якое зараз ідзе размова, прыйшло каля 150 чалавек. На сабраную выручку аплочваем паслугі ансамбля, які запрашаем з в. Быцень; шматлікія прызы, якія купляем перад мерапрыемствам. Чаму ансамбль, а не дыскатэка? Як паказаў час, моладзь лепш рэагуе на "жывую" музыку, любіць бачыць перад сабой жывых музыкантаў, а для нас жаданне кліента — закон. На астатнія грошы купляем што-небудзь для свайго Дома культуры і, калі што застаецца, здаем сродкі ў сельскі Савет.

Колькі часу доўжыцца мерапрыемства? Адпачываем столькі часу, колькі жадаюць самі людзі. Маладым сямейным парам мы заўсёды ідзем насустрач, разумеючы, што з-за клопатаў з дзецьмі, па гаспадарцы, ім не так і лёгка выбрацца з дому. На 8 сакавіка ансамбль іграў да трох гадзін ночы, пасля мы ўключылі магнітафон і адпачынак доўжыўся да 5 гадзін. Лічу, што нічога кепскага ў гэтым няма. Бо хутка вясна і ў гэтых маладых людзей будзе столькі клопатаў на полі, па гаспадарцы, што аб вясёлых мерапрыемствах можна будзе толькі ўспамінаць. Мы, супрацоўнікі Дома культуры, робім усё, каб успаміны ў нашых наведвальнікаў былі самыя прыемныя.

...Адна выхадца з нашай вёскі, а цяпер жыхарка г. Мінска, якая прыехала ў вёску да маці і наведала наш клуб, у канцы мерапрыемства ўсклікнула: "Столькі год жыву ў Мінску і не ведала, што ў вёсцы можна так цікава адпачыць!" Лічу гэта своеасаблівым кампліментам у свой адрас і адрас нашых усіх супрацоўнікаў.

*Запісаў*
*А. ГОРБАЧ.*

● ШТО ХВАЛЮЕ

# Скажы "Не!" наркаманіі

У рамках гарадскога марафону "Моладзь за здаровы лад жыцця" праведзена дыскусійная праграма "Моладзь, наркотыкі, СНІД, беспарадкавыя палавыя сувязі". На сустрэчу да юнакоў і дзяўчат у кінатэатр "Кастрычнік" прыйшлі галоўны ўрач гарадскога цэнтра здароўя Тамара Жукоўская, галоўны ўрач наркалагічнага дыспансера Андрэй Будзько, псіхолаг па праблемах маладых сем'яў Галіна Чабатар.

Называліся лічбы, за якімі стаяць рэальныя жыцці і трагічныя наступствы. У горадзе зарэгістравана 70 наркаманаў, 13 з іх — ВІЧ-інфіцыраваныя. Але гэта толькі бачная частка айсберга. Для рэальнага малюнка трэба афіцыйную статыстыку памнохыць на 10. Здавалася б, усім вядомая шкода наркаманіі, аднак яна па-ранейшаму вабіць да сябе пэўнае кола маладых людзей.

Аддзел па справах моладзі гарвыканкама сумесна з іншымі маладзёжнымі структурамі плануе праводзіць такія мерапрыемствы кожны аўторак. Гэта, на іх погляд, дзейсная спроба агаліць праблемы, звязаныя з наркаманіяй і СНІДам.

*Л. САШЫН.*
*г. Баранавічы.*

● КУМИРЫ

# Звёздный стандарт



**Дмитрий ХАРАТЬЯН** рекомендует перечитывать классику: "Войну и мир", "Преступление и наказание", всего Пушкина. Классика обладает большим духовным потенциалом. "Горе от ума" хотя бы взять — так это ж просто сегодняшний день! А современные писатели как-то малоактуальны, они еще не осознали это время. Ну Окуджава, может быть, — он для меня такой ориентир серьезный. Еще в последнее время читал мемуары Кончаловского. Из газет и журналов — что-то чисто информационное. Вообще-то прессе не доверяю".



**Алёна СВИРИДОВА** жалуется на то, что у нее стало намного меньше концертов. "По всей видимости, народ решил повременить со зрелищами — люди наверняка ожидают еще худших времен". И в связи с этим, как говорит Алёна, она рискует "влететь" на выпуске своего нового альбома. Муж певицы Генри — американец — воспринимает все российские события с сарказмом и планирует уехать работать опять в США. "Может нам придется жить по-голливудски: работать по разные стороны океана и часто приезжать друг к другу", — грустно говорит Алёна.



Мужественный красавец **Пирс БРОСНАН**, по мнению английской публики, обладает всеми теми качествами, которые больше всего подходят под образ Джеймса Бонда.

В Бонде (которого играет Пирс) 180 см роста, сложение атлетическое, но в то же время поджарое, волосы темные, одна из бровей изгибается мужественной ассиметричной запятой. Глаза узкие и бдительные, слегка сердитые, стального цвета. Жестокий рот. Загар. На правой щеке белеет длинный шрам. Всегда чисто выбрит. Говорит решительно, безжалостно, иронично, холодно и вообще предпочитает молчать. Джеймс Бонд пьет много и не пьянеет.

● КОНКУРСЫ

# Мисс "Очарование"

В Доме культуры в Пружанах прошел конкурс "Мисс "Очарование". Семь обаятельных представительниц прекрасного пола сражались за главный титул. Посмотреть и послушать было что.

Напряженность, царившая в зале, не покидала публику до самого конца. Два часа пролетели, как двадцать минут. Прекрасная работа ведущих, бывало, скрашивала маленькие неудачи участниц, но в целом держались они достойно.

Борьба за главный титул проходила в пяти номинациях. И положение в балловой таблице постоянно менялось.

Жюри предстояло выбрать лучшую во всех отношениях. В состав его входили представители отдела по делам молодежи райисполкома, "Газеты для вас", райкома БПСМ и сотрудников ДК. В итоге конкурса звание "Мисс "Очарование" получила ученица СШ № 3 Наталья Корсак. Она действительно очаровала весь зал.

Но были и другие титулы. "Вице-мисс" стала Ольга Велисюк из той же СШ № 3. На взгляд жюри, этой девушке необходимо возглавить какой-нибудь кружок. Лучшего лидера не найти. Она же победила в номинации "Приз зрительских симпатий". Ползала встало аплодируя ей.

Специальный приз от "Газеты для вас" и МО "Гражданский форум" был вручен Татьяне Комарице за раскованность. Другие участницы также не остались без поощрений. Их награды — утешительные призы и аплодисменты зала. А вообще было очень классно.

*Е. ВАЛЮКЕВИЧ.*
**г. Пружаны.**

